# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№8 (255)

жнівень 2023

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## Арыштаваныя Алег Рудакоў і яго жонка Вольга

Праваабаронцы паведамілі, што 24 жніўня ў Полацкім раёне былі затрыманыя Алег Рудакоў і яго жонка Вольга. Пазней з’явіліся падрабязнасці, што яны арыштаваныя на 30 сутак.

Старонка 2






# УЛАДЗІМІРУ АРЛОВУ – 70 ГАДОЎ

25 жніўня 70-гадовы юбілей адзначыў вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў. Большую палову свайго жыцця ён прысвяціў таму, каб беларусы ведалі сваю гісторыю і ганарыліся ёй. Яго “Таямніцы полацкай гісторыі” і “Дзесяць вякоў беларускай гісторыі” ўвайшлі ў спіс 100 самых папулярных беларускіх кніг XX стагоддзя, а знакамітае эсэ “Незалежнасць – гэта...” было перакладзенае больш чым на 20 моў. Славу ж таленавітага пісьменніка Арлову прынесла яго гістарычная проза.

Уладзімір Арлоў нарадзіўся 25 жніўня 1953 года ў Полацку. Пра сваіх бацькоў і ўласнае дзяцінства пісьменнік згадваў у эсэ “Мой радавод да пятага калена, або Спроба пазбегчы выгнання”.

“Я нарадзіўся ў таты з мамаю ў год Змяі паводле ўсходняга календара і ў год смерці Сталіна – паводле савецкага. Мой дзень нараджэння – у жніўні, значыцца, у сакавіку, калі вялікі правадыр народаў нарэшце выправіўся на той свет, я ўжо існаваў, ды мог не нарадзіцца, бо пасля радыёпаведамлення мама пачулася зусім блага. Свет гінуў, ад роспачы мама ў істэрыцы рвала валасы і надоўга трапіла ў бальніцу. Але тым разам савецкая медыцына перамагла (нашы савецкія хворыя – самыя здаровыя хворыя ў свеце!), і, перачакаўшы, відаць, непамысныя для мяне дні задыякальнага знаку Льва, я шчасна нарадзіўся на трэці дзень Паненкі”.

У 1975 годзе Уладзімір Арлоў скончыў гістарычны факультэт БДУ, нейкі час жыў у Наваполацку, а пасля пераехаў у Мінск, дзе і напісаў большасць сваіх твораў, па якіх мы вучылі альтэрнатыўную гісторыю Беларусі і пачыналі ганарыцца сваёй слаўнай мінуўшчынай.

Арлоў – аўтар некалькіх дзясяткаў кніг прозы, паэзіі, гістарычных нарысаў і эсэ, сцэнарыст навукова-дакументальных фільмаў. Пасля 2020 года пісьменнік з’ехаў з Беларусі і цяпер знаходзіцца ў эміграцыі, дзе працягвае літаратурную дзейнасць.

Напрыклад, не так даўно ў яго выйшла кніга “Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань”. На прэзентацыях выдання Уладзімір Арлоў распавядаў найцікавейшыя гісторыі пра тое, як ствараліся ягоныя кнігі. Дзень нараджэння – цудоўная нагода, каб яшчэ раз прыгадаць гэтыя ўспаміны ды бліжэй пазнаёміцца з творчым светам пісьменніка, які пра кожнае са сваіх выданняў мог бы напісаць калі не яшчэ адну кнігу, то, прынамсі, эсэ:

“Кнігі як дзеці – нараджаюцца ў пісьменніка ад жанчын, дзякуючы жанчынам. У кожнай кнігі – свае адпраўныя кропкі. Магічныя моманты, з якіх пачынае ўсё раскручвацца, з’яўляецца сюжэт. Пачынае ўяўляцца цэлая кніга – яе назва, яе героі. А зараз, распавяду вам некалькі вельмі дарагіх майму сэрцу гісторый…”

Працяг на старонцы 2.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# УЛАДЗІМІРУ АРЛОВУ – 70 ГАДОЎ

Працяг са старонкі 1.



Уладзімір Арлоў падчас уручэння прэміі Наталлі Арсенневай, 2019 год

### Трое мужчын ішлі па снезе, не пакідаючы слядоў

Аднойчы мне прысніўся сон. Сучаснай мовай, я б назваў яго кліпам. Трое мужчын ішлі па глыбокім снезе, па снегавой нерушы. Ішлі, выдрукоўваючы свае сляды, правальваліся. Потым раптам… сляды за імі пачалі губляцца: за адным, другім, трэцім. Урэшце, яны ішлі па снезе не пакідаючы слядоў. Мабыць, як некалі Ісус ішоў па вадзе. Я прачнуўся і адразу запісаў гэты сон – каб не забыцца. Так нарадзіўся мой верш "Падарожнікі". З гэтага верша пачалася мая першая паэтычная кніга – "Там, за дзвярыма".

### Багоўка, якая не хацела ляцець у Беларусь

Аднойчы я сам ішоў, але ўжо не па снезе, а па спякотнай Пятай авеню ў Нью-Ёрку. На мне была зялёная тэніска. Мабыць, пераблытаўшы з газонам, на яе апусцілася нью-ёрская божая кароўка. Залезла ў кішэню і не вылазіла адтуль пяць дзён, колькі я ні стараўся яе вызваліць. Яна мяне не пакідала, а я – падкладаў ёй туды травінкі, каб небарака не памерла з голаду.

Думаў, што яна паляціць са мной у Мінск, але ў аэрапорце імя Джона Кэнэдзі божая кароўка ўсё ж вылецела: вырашыла застацца ў Амерыцы. Яна і падарыла мне назву эсэ: "Божая кароўка з Пятай авеню". З гэтага эсэ пачынаецца кніга пад такой самай назвай.

### Водар жанчыны

Іншым разам я ішоў ужо не па авеню, а па сціплай полацкай вулачцы ў горадзе майго дзяцінства і юнацтва. Там, дзе назаўжды мае Альфа і Амега. Ішоў задуменны. Размінуўся з дзяўчынай ці жанчынай, нават не заўважыўшы яе. Але – яна пакінула пасля сябе ў паветры тоненькі струменьчык парфумы. Гэты водар настолькі ўсхваляваў мяне, напружыў свядомасць і ўяву, што ў наступную хвіліну літаральна мне пачаў мроіцца вобраз маёй будучай гераіні аповесці "Сны імператара".

Па сюжэце гэта беларуская шляхцянка, якая была адной з каханак Напалеона Банапарта. Прыйшла да яго ў Вільні, калі ў купальскія дні 1812-га горад сустракаў яго як вызваліцеля. Прыйшла, каб патрабаваць аднаўлення сваёй Айчыны – Вялікага Княства Літоўскага. Прыходзіла да яго ў Віцебску, калі імператар прымаў фатальнае рашэнне ісці на Маскву ды мроіў пра заваяванне Індыі. Прыходзіла на выспе св. Алены… Але ўсё пачалося з таго паху на маленькай полацкай вулачцы.

### Аркестр троляў і гномаў

Часам бывае, што адна кніга нараджае другую. Кніга "Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя" выйшла ў перакладзе на некалькі моваў, у тым ліку на ангельскую – This Country Called Belarus. Была прэзентацыя ў Швецыі, у бібліятэцы невялікага прыморскага горада. Я скончыў маналог, пачаліся пытанні з залы. У першым шэрагу была прыгожая расхваляваная жанчына ў пухнатым швэдры, якая спытала: "Містар Арлоў, у нас ёсць тролі, гномы, ундзіны, а ці ёсць у Беларусі падобныя істоты?"

Я асцярожна зазначыў, што Беларусь не бяднейшая, а можа і багацейшая на такую публіку: лесавікі, дамавікі, лазнікі, русалкі, жыцень, Зюзя – хапае і ў нас. Яна паспела сказаць, што ўсе гэтыя стварэнні жывуць у яе ў доме ды ў садзе. А яшчэ – яны ладзяць канцэрты. Запрасіла мяне прыязджаць і жыць да яе, колькі хачу, а па вечарах слухаць гэты аркестр.

Да яе падляцеў дырэктар бібліятэкі і адвёў некуды ў бок. Потым мне распавялі, што жанчына – вар'ятка. Уся яе сям'я загінула падчас страшнага цунамі ў Тайландзе: тады загінулі тысячы шведскіх турыстаў. Не знайшлі нават целаў. У садзе яна зрабіла сімвалічныя магілы сваякоў, і з таго часу распавядае пра аркестр троляў, гномаў ды іншых стварэнняў… Так нарадзіўся сюжэт аповесці "Дом з дамавікамі", якая ўвайшла ў кнігу "Танцы над горадам". Гэта такая вусцішная аповесць, мне самому было не вельмі проста яе пісаць.

### PS

Кожная кніга мае свой лёс. Кожная кніга – як дзіцёнак – нараджаецца ад любові. Часам у пакутах. Усе дзеці розныя. Але, як і ў кожнай здаровай сям'і, нялюбых дзяцей проста не можа быць.

budzma.org

# АРЫШТАВАНЫЯ АЛЕГ РУДАКОЎ І ЯГО ЖОНКА ВОЛЬГА

Праваабаронцы паведамілі, што 24 жніўня ў Полацкім раёне былі затрыманыя Алег Рудакоў і яго жонка Вольга. Пазней з'явіліся падрабязнасці, што яны арыштаваныя на 30 сутак.

Прычынай арышту сталі каментары Алега і яго жонкі Вольгі ў інтэрнэце.

Алег Рудакоў больш за 30 гадоў пражыў у Расіі, стварыў і на працягу 17 гадоў узначальваў у Іркуцку таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, адну з самых актыўных у Расіі беларускіх суполак.

У 2020 годзе канчаткова вярнуўся ў Беларусь.

Яго жонка Вольга вядзе майстар-класы па традыцыйным беларускім гафце ў полацкім Музеі традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я.

zbsb.info



навіны

# ВЕЧАР ДАКУМЕНТАЛЬНАГА БЕЛАРУСКАГА КІНО Ў НЬЮ-ДЖЭРСІ

Ці даводзілася вам калі-небудзь глядзець кіно пра сябе? Ці мелі вы некалі магчымасць цалкам разумець герояў стужкі і перажываць падзеі на экране паўторна, бо такое ўжо перажылі самі?

У Саўт-Рыверы адбыўся кінапрагляд пад адкрытым небам. Беларусы Нью-Джэрсі й Нью-Ёрка сабраліся разам у нядзелю 6 жніўня, каб паглядзець дакументальнае кіно пра Беларусь. У парку Змагароў за Вольную Беларусь дакументальныя стужкі дэманстраваў беларускі рэжысэр Максім Швед. Для гасцей была падрыхтаваная гарбата і розныя снэкі. Дзяўчаты-арганізатары Ганна Шарко, Кацярына Бублік і Тацьцяна Дзямешчык зрабілі вельмі ўтульную атмасферу, паслаўшы коўдры на траве і аздобіўшы экран ліхтарыкамі. Акрамя маладых беларусаў, на вечарыне прысутнічалі старэйшыя прадстаўнікі дыяспары – Надзея Запруднік і Жорж Навумчык.



Пакуль сонца было яшчэ высока, Максім Швед расказаў пра сябе, пра сваю творчасць, пра вучобу ў Санкт-Пецярбургу, а затым – у кінашколе Вайды ў Польшчы. Менавіта там ён атрымаў фундаментальныя веды і зняў сваю першую кінастужку ў 2019 годзе. Пасля быў 2020 год. Нягледзячы на творчы крызіс і іншыя складанасці, Максім вырашыў працягваць здымаць. Тут у размове ён падзяліўся першым творчым сакрэтам, што дакументальнае кіно – гэта адлюстраванне рэчаіснасці, якое застанецца надоўга, у адрозненне ад рэпартажаў, якія хутка знікаюць. Ужо амаль год Максім жыве ў Польшчы. Не так даўно ён быў у Нарвегіі, дзе гасцяваў у тамтэйшых беларусаў. Пасля 2020 года ён заўважыў больш салідарнасці сярод беларусаў. Тыя, паводле яго слоў, хто раней штосьці рабілі паасобку, пачалі працаваць разам.

Беларускі дакументаліст прыехаў у ЗША ў пачатку ліпеня 2023 года на запрашэнне Jacob Burns Film Center. Тут яму прапанавалі пабыць на т. зв. "кінарэзідэнцыі". Вольны час Максім выкарыстоўвае, каб сустракацца з беларусамі ў ЗША і ладзіць кінапаказы. Наступны яго прыпынак – Бостан.

Потым пачалася размова з гледачамі. На пытанне, як зацікавіць людзей дакументальным кіно, Максім распавёў, што ў цэнтры сюжэту павінен быць чалавек. І тут галоўнае – абраць цікавага героя. А ўжо праз героя мы можам паглядзець крытычна на суполку людзей. Стварыць збіральны вобраз. Не варта думаць, што дакументальнае кіно – гэта праўда жыцця. Як вучылі ў школе Вайды, "гэта майстэрская інтэрпрэтацыя рэчаіснасці".

У гэты вечар гледачы змаглі ўбачыць creative documentary – больш ахвярнае кіно, стварэнне якога не мае асаблівай камерцыйнай мэты і з'яўляецца мастацкім творам. Іншыя прадстаўленыя стужкі ўяўлялі сабой рэпартажы па змесце. Максім марыць, каб яго фільмы трапілі на фестываль



дакументальнага кіно ў Амстэрдаме – самы прэстыжны з існых у Еўропе. Таксама ён распавёў пра фестываль у Кракаве, дзе адбылася прэм'ера яго першага фільма. Увогуле, у Польшчы ладзіцца да пяцідзесяці кінафестываляў на год па ўсёй краіне. У Беларусі такога няма. Яна ўвогуле выключаная з еўрапейскага кінакантэксту. У той жа час дакумэнталістам са Старога Свету цяжка трапіць у Амэрыку, бо нарацівы тут будуюцца крыху па-іншаму.

Калі ўжо добра сцямнела, пачалася дэманстрацыя кінастужак. Гледачы ізноў пабачылі родныя краявіды і вельмі знаёмых людзей. Самі фільмы былі адметныя сваёй якасцю й прафесыйнасцю здымак. Пасля заканчэння ўдзельнікі яшчэ раз падзякавалі Максіму Шведу і арганізатарам кінапрагляду за цудоўны вечар нядзелі.

**Міхась Чаропка, bielarus.info**

# ВЫЦІНАНКА, БЕЛАРУСКІЯ ЛЯЛЬКІ І ЛЯВОН ВОЛЬСКІ НА СВЯТКАВАННІ ДНЯ РЫГІ

Сёлета беларуская дыяспара Латвіі ўпершыню ўзяла ўдзел у штогадовым Дні Рыгі. Падчас свята беларусы размясцілі свой стэнд на Ратушнай плошчы.

Арганізацыяй удзелу ў мерапрыемстве займалася Асацыяцыя беларусаў Латвіі "Суполка" сумесна з Латвійскім таварыствам беларускай культуры "Світанак" пры падтрымцы Дацкага культурнага інстытута ў Эстоніі, Латвіі і Літве.

Каб пазнаёміць латвійцаў з традыцыйнай народнай творчасцю і дзеля папулярызацыі беларускай культуры дыяспара зладзіла майстар-класы па вырабе "выцінанкі" – мярэжаў, выразаных з паперы з дапамогай нажніц, і лялек-абярэгаў "Жаданніца". Вялікім попытам наведнікаў карысталася майстэрня па жывапісе акрылам на шоперах. Кіравала ёй



сучасная беларуская мастачка і ілюстратарка Вольга Якубоўская, вядомая па серыі "Коцікі Свабоды".

Цікавасць гасцей выклікала распрацаваная чальцамі "Суполкі" настольная гульня на падабенства беларускіх і латышскіх слоў і аквагрым з узорамі беларускага нацыянальнага арнаменту.

Са сцэны на Ратушнай плошчы ад імя беларускай дыяспары горад павіншавалі беларускі рок-музыкант Лявон Вольскі і латышскі хор "Frachori".

Прыемнай нечаканасцю было сумеснае выкананне нефармальнага гімна Беларусі "Тры чарапахі" і версіі "харавога гімна" Латвіі Saule, Pērkons, Daugava на беларускай мове як сімвалу падтрымкі Латвіяй Свабоднай Беларусі.

Падчас святкавання Дня народзінаў Рыгі на стэнд да беларусаў завіталі пасол Латвіі ў Беларусі Эйнарс Семаніс, віцэ-мэр Рыгі Лінда Озала, кіраўнік аддзела міжнароднага супрацоўніцтва Рыжскай думы Галіна Букоўска, кіраўнік Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі Рафі Хараджанян, кіраўнік арганізацыі беларускіх мастакоў у Латвіі "Маю гонар" Вячка Целеш, сябра Беларускага дома ў Эстоніі і прадстаўнік Офіса Святланы Ціханоўскай у Эстоніі і Латвіі Віталь Малчанаў і сябра Прэзідыуму Рады БНР Алесь Чайчыц.

**novychas.online**

**навіны**

# БЕЛАРУСЫ ВАРШАВЫ ПРАЙШЛІ МАРШАМ У ГАДАВІНУ ПРАТЭСТАЎ




Беларусы Варшавы ў гадавіну пратэстаў прайшлі маршам па вуліцах польскай сталіцы. Гэтым разам стартавай кропкай было абранае незвычайнае для беларускіх маршаў месца, бо раней усе маршы праходзілі выключна на заходнім беразе Віслы. Гэты ж марш пачаўся ад Кафедральнай базылікі святых Міхаіла і Фларыяна. Першая частка маршу праходзіла па мосце Шлёнска-Дамброўскім праз Віслу ў бок Замкавай плошчы. У гэты дзень людзі ўспамінаюць, як гэта было тры гады таму, калі вось такія маршы праходзілі па ўсёй краіне, аналізуюць вынікі, што атрымалася, а што не, і рыхтуюцца да новай магчымасці змяніць усё ў Беларусі.

З Замкавай плошчы калона з некалькіх сотняў беларусаў пайшла ў бок помніка Каперніку, дзе адбылася асноўная частка мерапрыемства на якой выступілі з прамовамі палітыкі, актывісты, а таксама адбыўся невялічкі канцэрт. Сярод выступоўцаў былі і прадстаўнікі польскіх уладаў. Падзеі 2020 года і тое, што адбываецца зараз, пракаментаваў прадстаўнік Аб'яднанага пераходнага кабінета Павел Латушка, які нагадаў Аляксандру Лукашэнку, што ніякая старонка беларусамі не перагорнутая.

**radiounet.fm**

# БАТУМСКІЯ БЕЛАРУСЫ ЎЗГАДАЛІ ПАДЗЕІ 2020 ГОДА

Больш за сотню беларусаў, што жывуць у грузінскім Батумі, узялі ўдзел у акцыі – перформансе на Плошчы Еўропы. Перформанс быў у тым, каб напісаць прозвішчы беларускіх палітзняволеных і выкласці іх у выглядзе абрысаў Беларусі.

Правядзенню акцыі троху перашкодзіў дождж, аднак актывісты здолелі напісаць больш за 1500 прозвішчаў беларускіх палітзняволеных.

**Сяргей Апановіч, racyja.com**






# I STAND WITH BELARUS – 2023

Беларусы Манрэаля правялі сустрэчу з нагоды гадавіны выбараў 2020 года.

Тры гады таму наша жыццё змянілася. Нікога з нас не пакінулі абыякавамі выбары і трагічныя падзеі, якія здарыліся пасля. Мы з болем у сэрцах назіраем за хунтай, якая рэпрэсуе беларусаў і дапамагае расейскаму агрэсару ў вайне супраць Украіны. У нашай краіне зараз больш за 1500 палітвязняў.

**belarusians.ca**

навіны

# МАРШ ГОДНАСЦІ І СПРАВЯДЛІВАСЦІ Ў ВІЛЬНІ

У Вільні адбыўся марш годнасці і салідарнасці беларусаў. Ён быў прысвечаны трэцяй гадавіне пачатку масавых пратэстаў у Беларусі пасля фальсіфікацый на прэзідэнцкіх выбарах і распачатага рэжымам гвалту.

Гэтым мерапрыемствам 9 жніўня больш за тысячу беларусаў выказалі салідарнасць і падтрымку беларускаму народу, які змагаецца за свабоду, дэмакратыю і правы чалавека.

Напачатку на Кафедральнай плошчы адбыўся міттынг, дзе выступілі прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці на чале са Святланай Ціханоўскай:

– 2020 год – гэта быў дзень амаль упэўненасці, што вось перамены, вось яны на парозе. Прайшоў год, было цяжка, але гэтая надзея, што вось-вось…, яна анікуды не знікла. Тры гады прайшло, і сёння я адчуваю больш болю за тое, што мы не змаглі тады; за тое, што пакутуюць нашыя родныя ў турмах. Аднак я ўсё адно поўная ўпэўненасці ў беларусах, у тым, што мы вернемся. Я не ведаю, калі, я не магу даваць такія прагнозы. Але я бачу, што перад намі цяжкі шлях. Колькі ён зойме – я не ведаю.

Прыйшлі падтрымаць беларусаў і літоўскія палітыкі. Як кажа Эмануэліс Зінгерыс, усё жыццё яны чакалі беларусаў у Еўрасаюзе:




– Штогод сустракаю дзень вашай незалежнасці. Чакаю, што вы скінеце гэты прыгнёт, гэтых пачвараў са сваіх плячэй і станеце нармальнымі еўрапейскімі людзьмі. Бо мы разумеем, што вы не расейцы, што вы еўрапейцы. Вас спрабуюцьператварыць у савецкіх расейцаў, але ў іх не ўдасца.

Шлях маршу годнасці і салідарнасці палягаў ад Кафедральнай плошчы да беларускай амбасады. Ля гэтага будынку мітынгоўцы выступілі з прамовамі, завязалі стужкі ў выглядзе бел-чырвона-белага сцяга на плот амбасады і запалілі свечкі каля фотаздымкаў загінулых ад рэжыму.

racyja.com

# БЕЛАРУСЫ ІТАЛІІ ЗГАДАЛІ ПАДЗЕІ 2020 ГОДА

Беларуская супольнасць, што жыве ў Італіі, згадала падзеі жніўня 2020 года. Акцыі адбываліся ў розных гарадах гэтай краіны.

Пра акцыі распавяла прадстаўніца “Народнай амбасады” ў Італіі Юлія Юхно:

– Мы адзначалі даволі-такі маштабна. У горадзе Бергама мы вывесілі наш нацыянальны сцяг, гэта быў адзіны горад у Італіі, дзе вывесілі сцяг. Мы размаўлялі з многімі мэрамі і адміністрацыямі. Нам адказвалі, што гэта неафіцыйны сцяг, таму вывешваць яго яны не могуць. Мэр Бергама пайшоў насустрач.

Яна кажа, што беларускія акцыі адбываліся таксама і ў іншых гарадах Італіі:

– У двух гарадах былі падсвечаныя будынкі – гэта Сіена, Асацыяцыя беларусаў у Італіі, атрымалі дазвол таксама ў Балонні. Гэта тры такія мерапрыемствы. Таксама мы зрабілі маніфестацыю ў Фларэнцыі, тут нас падтрымалі прафсаюзы, як заўсёды, і, канешне, як заўсёды, гэта былі беларусы, якія жывуць у Фларэнцыі, якія жывуць у Рыме.

Паводле слоў Юліі Юхно, цяпер у Італіі жыве каля 10 тысяч беларусаў, якія расцярушаныя па ўсёй краіне. Аднак беларускія акцыі прымеркаваныя да значных гістарычных датаў збіраюць вялікую колькасць беларусаў пад нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі.

racyja.com



навіны

# МІТЫНГ У НЬЮ-ЁРКУ Ў ДЗЕНЬ САЛІДАРНАСЦІ З БЕЛАРУССЮ

У сераду 9 жніўня 2023 года перад штаб-кватэрай ААН на Манхэтане прайшоў мітынг, супольна арганізаваны Беларуска-Амерыканскім Згуртаваннем "Пагоня", Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем (БАЗА) і Аб'яднаннем беларусаў у Амерыцы (АБА).




Мітынг быў прысвечаны адзначэнню трэцяй гадавіны масавых пратэстаў у Беларусі супраць фальсыфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, якія адбыліся ў жніўні 2020 года.

Тры гады прайшло, як народ Беларусі ўзняўся бараніць свой дэмакратычны выбар. Сотні тысяч беларусаў, беспрэцэдэнтная колькасць людзей, якія раней не цікавіліся палітыкай, выйшлі на плошчы і вуліцы вялікіх і малых гарадоў краіны. Цяпер мы адзначаем гэтую і велічную, і трагічную падзею, і патрабуем спыніць рэпрэсіі і пераслед у Беларусі, катаванні й забойствы, спыніць суўдзел у злачынствах агрэсіўнай Расеі, патрабуем свабоды для ўсіх палітзняволеных у Беларусі.

Напачатку імпрэзы выступіў старшыня Беларуска-Амерыканскага Згуртавання "Пагоня" сп. Віталь Зайка. Ён падзякаваў прысутным за ўдзел у мітынгу. "Менавіта тры гады спаўняецца сёння з часу найвялікшага ўздыму беларусаў, калі людзі падняліся бараніць свае правы і свой дэмакратычны выбар. На жаль, справа, пачатая гэтым уздымам, прыход да ўлады кіраўніцтва, якое было б законна абраным, пакуль не завяршылася перамогай. Вялізарная энэргія і спадзяванні людзей не былі належна скарыстаныя і скіраваныя на ўсталяванне дэмакратыі ў Беларусі. Але тая энэргія не знікла, не расцерушылася, і рэжыму не ўдалося зламаць волю народу да свабоднай, дэмакратычнай, сапраўды незалежнай і сапраўды беларускай дзяржавы. Беларускія людзі працягваюць змагацца як на Бацькаўшчыне так і за яе межамі, яны пашыраюць дапамогу палітзняволеным і іхным сем'ям, яны працуюць на тое, каб на Бацькаўшчыне ўсталявалася дэмакратыя і законнасць".

Прамоўца зачытаў спіс беларусаў, што загінулі, баронячы будучыню сваёй краіны, і першым ў гэтым спісе стаіць імя забітага падчас пратэстаў Аляксандра Тарайкоўскага. "Мы не ведаем, колькі яшчэ жыццяў забярэ гэтае змаганне, колькі людзей у турмах і лагерах знаходзяцца цяпер на мяжы жыцця і смерці, каб пасля загінуць як Вітольд Ашурак, Макалай Клімовіч і Алесь Пушкін. Але ўсе гэтыя людзі не забытыя, усе, хто знаходзіцца за кратамі, мусяць быць пад нашай пільнай увагай і дапамогай, каб іх не напаткаў трагічны лёс. Мы мусім яднацца і працаваць на агульную справу набліжэння свабоды ў Беларусі".

Затым слова ўзяла сп. Ганна Шарко. Яна прывітала прысутных і распавяла пра важнасць падзеяў 2020 года, выказала горыч з-за таго, што ўжо тры гады ў Беларусі працягваюцца і ўзмацняюцца рэпрэсіі, што тысячы людзей мусілі пакінуць Бацькаўшчыну і шукаць бяспекі і нармальнага жыцця на чужыне. Мы ў вольным свеце павінны дапамагаць сваім братам і сёстрам, што цяпер знаходзяцца за кратамі, мы мусім шукаць адзінства і салідарнасці, каб перамагчы ў нялёгкім змаганні за свабоду і дэмакратыю.

Сп. Ганна Сурмач падкрэсліла, што падзеі жніўня 2020 года – гэта і велічная, і трагічная памяць. Той беспрэцэдэнтны па сіле ўздым мог бы прывесці да перамогі, але шанцы, якія паўсталі ў тыя дні, не былі належна скарыстаныя. Таму мы мусім помніць герояў, што заплацілі жыццём і свабодай за набліжэнне перамогі, але таксама мусім аналізаваць і планаваць справы так, каб не паўтараць памылак. Мы павінны працягваць сваё змаганьне да перамогі, каб нашыя ахвяры не былі дарэмнымі.

Затым сп. Ілля, малады чалаве, што ўзяў удзел у мітынгу, прывітаў прысутных і падкрэсліў, што пасля падзеяў 2020 года беларусы не могуць і не маюць права сядзець склаўшы рукі, ім неабходна аб'ядноўвацца і пашыраць грамадскую працу, асабліва ў беларускіх суполках і грамадах у замежжы. "Вельмі радасна бачыць, што сярод нас столькі маіх раўналеткаў, столькі моладзі. Гэта надае надзеі й веры ў нашу перамогу. Мы можам і павінны перамагчы!"

Прысутныя трымалі беларускія нацыянальныя сцягі і плакаты, выгукалі лозунгі "Беларусь – ТАК! Лукашэнка – НЕ!", "Спыніць катаванні і забойствы ў Беларусі!", "Свабоду палітвязням у Беларусі!".

**Віталь Зайка, bielarus.info**

# ЛІСТЫ БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗНЯМ З ЭСТОНІІ




Карэспандэнцыі за краты да тых, хто праходзіць у Беларусі па крымінальных палітычна матываваных справах, надалей дасылаюць беларусы Эстоніі.

З гэтай мэтай прыкладна раз на месяц беларусы збіраюцца разам, – распавяла прадстаўніца беларускай дыяспары Ірына Шпак:

– Пра найбліжэйшыя планы магу нагадаць тое, што ў наступны аўторак у жніўні мы сустракаемся дыяспарай і працягваем пісаць разам лісты і падпісваць паштоўкі. Паспрабуем павітаць усіх тых, у каго дзень народзінаў у жніўні, хоць нейкую колькасць.

Беларуска Ірына Шпак дадала, што таксама ў напісанне лістоў да беларускіх палітвязняў часам ангажуецца мясцовае насельніцтва. Але тэма Беларусі ўсё ж для іх застаецца не такой актуальнай.

**racyja.com**

навіны

# Актывістка з Бельгіі: БЕЛАРУСЫ НЕ ЗДАЛІСЯ, І ІМ НЕ ЎСЁ АДНО, ШТО АДБЫВАЕЦЦА НА РАДЗІМЕ

Збірацца і ўздымаць беларускую тэму нягледзячы на летні перыяд працягваюць беларусы ў Бельгіі.




У прыярытэце – наяўнасць палітвязняў у Беларусі, – распавяла беларуска Марына Леваценка:

– Галоўная тэма – гэта заўсёды быць разам. Нияк аб'ядноўвацца. Ствараць суполкі, што сапраўды могуць працаваць на карысць. І таму тое, што прайшоў Дзень салідарнасці і беларусы выйшлі ў 42-х гарадах больш чым у 22-х краінах, сведчыць аб тым, што беларусы ёсць, што яны не здаліся, і што ім не ўсё адно, што адбываецца на іхнай гістарычнай радзіме.

Марына Леваценка дадала, што беларусы Бельгіі таксама надалей працягваюць пісаць лісты да палітвязняў. Паколькі ведаюць, што частка з іх усё ж даходзіць да адрасатаў.

racyja.com




# У ЦЮРЫХУ ПРАЙШОЎ ЛАНЦУГ САЛІДАРНАСЦІ З БЕЛАРУССЮ

Сярод іншых, у ім узялі ўдзел былыя палітзняволеныя Ганна Баран і Іван Андрушойць, сябры беларуска-швейцарскага аб'яднання RAZAM, праваабаронцы Libereco.

racyja.com паводле t.me/viasna96

# Аляксандр Адамковіч: ТАВАРЫСТВА НЕ СТАІЦЬ НА МЕСЦЫ, А РАЗВІВАЕЦЦА

Таварыства беларускай культуры ў Літве было створана ў Літоўскай Рэспубліцы ў 1989 годзе. Першапачатковая і галоўная мэта ТБК – адраджэнне, захаванне і развіццё беларускай культуры ў Літве. За мінулы час арганізацыя правяла сотні культурных мерапрыемстваў.

**– Лета ўжо заканчваецца, ужо можна сказаць, што адбывалася з Таварыствам, якія імпрэзы. Ці здзейснілася тое, што планавалася?**

– Лета прайшло не так ужо бясследна. Зрабілі вандроўку на радзіму Багушэвіча, вярнулі шыльду Багушэвічу на бібліятэку Багушэвіча ў Савічунах – каля той вёскі ён нарадзіўся. У 2018-м рабілі рамонт, шыльду знялі і не вярнулі. Але дзякуючы новаму мэру Віленскага раёна Роберту Духневічу, якога цяпер абралі, ён паспрыяў вяртанню гэтай шыльды на будынак бібліятэкі. І вось ізноў на Савічунах усе ведаюць, што ля іх нарадзіўся Францішак Багушэвіч. Вось такая наша праца. Зараз ізноў паедзем у вандроўку па Літве, і робім мастацкія пленэры.

**– А што цяпер адбываецца з Таварыствам? Ці прыходзяць новыя людзі, штосьці адбываецца?**

– Я б сказаў, што прыходзілі некалькі новых людзей, што актыўна далучаюцца. Калі яшчэ год назад нешта нічога не адбывалася, то ў гэтым годзе прыйшлі новыя людзі, дапамагаюць. І валанцёры на пленэры з'явіліся, і так ёсць людзі, што актыўна дапамагаюць. Таму Таварыства не стаіць на месцы, а пакрысе развіваецца.

**– Цяпер адбываецца пленэр беларускіх мастакоў, што малююць Вільню. І пленэр прысвечаны юбілею Вільні. А ці запланаваныя нейкія выставы, што ў выніку будзе?**

– Якраз першая выстава запланаваная з першага верасня, акурат у будынку мэрыі Віленскага раёна. Гэта першая пленэрная выстава, таму неўзабаве, фарбы не паспеюць высахнуць, ужо будзе выстава.

**– А ці ёсць нейкі рытуал ці традыцыя адкрыцця пленэра?**

– Традыцыя такая, што адкрыццё пад адкрытым небам на вулачках Вільні. Звычайна было каля дошкі Францішку Скарыну, сёлета было ў дворыку былой Віленскай беларускай гімназіі. Хаця і ў 2018, 2019-м пленэр адкрывалі там у дворыку. Таму гэта становіцца традыцыяй. Вельмі важна, што гэтым пленэрам цікавяцца літоўскія палітыкі. Быў дэпутат літоўскага сойму, што ўзначальвае камісію за дэмакратычную Беларусь і камісію замежных справаў Літвы, быў дарадца мэра Віленскага раёну, была дарадца еўрапейскага парламентара – багата палітыкаў высокага рангу прыйшлі на адкрыццё пленэра.

Алесь Аркуш, racyja.com



спадчына

# Заява Рады БНР: Вялікае Княства Літоўскае – супольная спадчына сучасных беларусаў і літоўцаў

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі з насцярогай назірае за спробамі справакаваць раскол паміж беларусамі і літоўцамі вакол тэмы інтэрпрэтацыі гісторыі і спадчыны Вялікага Княства Літоўскага.

Рада БНР падкрэслівае, што любы публічны канфлікт між беларусамі і літоўцамі ёсць перадусім выгодны нашым супольным ворагам – дыктатарскай пуцінскай Расеі, а таксама яе сатэліту, рэжыму А. Лукашэнкі ў Беларусі, які займаецца прасоўваннем расейска-савецкага каляніяльнага ідэалягічнага і псэўдагістарычнага наратыву, варожага да спадчыны Вялікага Княства Літоўскага, і мэтанакіравана займаецца русіфікацыяй Беларусі, у тым ліку польскай і літоўскай меншасцяў.

Нашыя супольныя ворагі, некаторым з якіх продкі цяперашніх літоўцаў і беларусаў супрацьстаялі стагоддзямі, зацікаўленыя ў тым, каб гэткія канфлікты выходзілі за межы канструктыўнай акадэмічнай, экспертнай і грамадскай дыскусіі і прыводзілі да ўзаемных абразаў і крыўдаў, шкодзячы шматсотгадовым добрасуседскім стасункам паміж народамі цяперашніх Беларусі і Літоўскай Рэспублікі. Рада БНР нагадвае пра мінулыя спробы Масквы пасварыць беларусаў і літоўцаў у пачатку 90-х гадоў, каб перашкодзіць працэсу аднаўлення незалежнасці Літоўскай Рэспублікі, які віталі і падтрымлівалі беларускія дэмакратычныя сілы – акурат тыя, чыя ідэнтычнасць абапіралася на памяць пра Вялікае Княства Літоўскае. У студзені 1991 года сотні беларусаў прыехалі ў Вільню і сталі побач з літоўцамі, абараняючы парламент Літоўскай Рэспублікі і права літоўцаў на незалежнасьць.

Вялікае Княства Літоўскае было ўтворанае, будавалася і існавала як вынік шчыльнага ўзаемадзеяньня балцкіх, усходнеславянскіх і заходнеславянскіх культураў і народаў. У бітвах пад Грунвальдам, Оршай, Сініх Водах, плячо да пляча супраць знешніх ворагаў на роўных ваявалі харугвы з Менску і Вільні, Навагрудку і Трокаў, Віцебску і Коўна і іншых гарадоў.

Спробы аспрэчыць права любога з нашых народаў называць сябе спадкаемцамі Вялікага Княства Літоўскага і лічыць гістарычную Літву сваёй дзяржаваю ёсць гістарычна беспадстаўнымі, заведама дэструктыўнымі і граюць на руку толькі і выключна агрэсіўным рэжымам Лукашэнкі і Пуціна.

Рада БНР канстатуе, што спадчына Вялікага Княства Літоўскага сталася падмуркам для нацыянальнай ідэнтычнасці як сучасных беларусаў, так і сучасных літоўцаў. Для абодвух нашых народаў гістарычная Літва – залаты век дзяржаўнасці. У прыватнасьці, на Вялікае Княства Літоўскае як этап беларускага дзяржаўнага будаўніцтва ўскосна спасылаюцца як Устаўныя граматы БНР, так і Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года.

Рада БНР адзначае, што нашыя народы маюць пазітыўны досвед мірнага і добрасуседскага абыходжання з супольнай гісторыяй. Прыкладам такога можа служыць супольнае перапахаванне паўстанцаў 1863-1864 гадоў, якое было выдатна праведзенае ўладамі Літоўскай Рэспублікі ў 2019 годзе і дзе прысутнічалі прадстаўнікі Літоўскай Рэспублікі, Польшчы і Беларусі – усіх краінаў, дзе шануецца гераічны подзвіг нашых землякоў-паўстанцаў, якія загінулі за нашую і вашую свабоду. Рада БНР вітае дзейнасць у Літоўскай Рэспубліцы беларускіх палітычных, культурніцкіх і навучальных установаў, якая не была б магчымая без падтрымкі з боку ўладаў Літоўскай Рэспублікі. За гэтую падтрымку беларусы заўсёды будуць удзячныя, і яна як нішто ўмацоўвае доўгатэрміновае беларуска-літоўскае добрасуседства.

У гэтай сувязі Рада БНР засцерагае палітыкаў і лідараў грамадскай думкі як Беларусі, так і Літоўскай Рэспублікі ад агрэсіўнай і дэструктыўнай узаемнай рыторыкі пры абмеркаванні тэмы інтэрпрэтацыі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, каб гэтая аднолькава адчувальная для беларусаў і літоўцаў тэма не рабілася інструментам маніпуляцый і правакацый з боку нашых агульных ворагаў.

Рада БНР заклікае гісторыкаў Беларусі і Літоўскай Рэспублікі да фармулявання ўзважанага погляду на складаную і шматгранную гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, які б грунтаваўся на фактах, адкідаў нацыяналістычны падтэкст і прадугледжваў супольныя інтэрпрэтацыі, якія паважалі б пачуцці як беларусаў, так і літоўцаў, і паважаў тую ролю, якую памяць пра Вялікае Княства Літоўскае адыграла ў пабудове сучасных беларускай і літоўскай нацыяў.

Рада БНР падкрэслівае, што Вялікае Княства Літоўскае ёсць супольнай спадчынай і супольнай каштоўнасцю беларусаў і літоўцаў, якая павінна яднаць нашыя народы, але не падзяляць іх.

radabnr.org

## Беларускі каляндар памятных дат на верасень 2023 года

1 верасня
- 170 гадоў таму, у 1853-м, нарадзіўся Міхал Федароўскі, этнограф, археолаг. Памёр у 1923-м.

2 верасня
- 75 гадоў таму, у 1948-м, у Лювене ўтворана Згуртаванне Беларускіх Ветэранаў. Старшыня Барыс Рагуля.
- 25 гадоў таму, у 1998-м, памёр Мікола Гайдук, пісьменнік.

3 верасня
- 45 гадоў таму, у 1978-м, памёр Пётр Татарыновіч, святар, літаратар, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Ватыкане.

4 верасня
- 130 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Юзюк Фарботка, паэт. Памёр у 1956-м.

6 верасня
- 120 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Мікалай Дварэцкі, паэт. Памёр у 1988-м.
- 150 гадоў таму, у 1873-м, памёр Яўстах Тышкевіч, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

10 верасня
- 130 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Аляксандр Ляўданскі, археолаг. Расстраляны ў 1937-м.

11 верасня
- 155 гадоў таму, у 1868-м, памёр Рамуальд Зянькевіч, этнограф, археолаг.

14 верасня
- 100 гадоў таму, у 1923-м, нарадзіўся Янка Баран, дзеяч эміграцыі ў Канадзе. Памёр у 2004-м.

15 верасня
- 375 гадоў таму, у 1648-м, забіты Афанасій Філіповіч, царкоўны дзеяч. Кананізаваны як праваслаўны святы.
- 110 гадоў таму, у 1918-м, нарадзіўся Уладзіслаў Салавей, душпастыр беларускіх каталікоў і грэка-каталікоў у Нямеччыне. Памёр у 1974-м.

16 верасня
- 85 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Іосіф Мацюкевіч, мовазнавец.

18 верасня
- 25 гадоў таму, у 1998-м, памёр Віктар Шымук, пісьменнік.

20 верасня
- 120 гадоў таму, у 1903-м, нарадзілася Наталля Арсеннева, паэтэса, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памерла ў 1997-м.

21 верасня
- 105 гадоў таму, у 1918-м, нарадзіўся Фёдар Янкоўскі, мовазнавец. Памёр у 1989-м.

24 верасня
- 130 гадоў таму, у 1893-м, нарадзілася Паўліна Мядзёлка, актрыса. Памерла ў 1974-м.

25 верасня
- 110 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Сяргей Грахоўскі, пісьменнік. Памёр у 2002-м.

28 верасня
- 195 гадоў таму, у 1828-м, нарадзіўся Вацлаў Пшыбыльскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг., літаратар. Памёр у 1872-м.
- 70 гадоў таму, у 1953-м, загінуў Базыль Камароўскі, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.

**Беларусы ў свеце**
№ 8 (255), жнівень 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com